**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

# ХАЎТУРНЫЯ АБРАДЫ

Смерць — канец зямных падарожжаў, сужыцця з блізкімі, сумнае развітанне са светам. З'яўляецца адначасова стымулам рэфлексій над сэнсам людскога жыцця. Гэтыя вывады і аналіз чалавечага быту вельмі выразна і шырока паказаны перш за ўсё ў песнях. З'яўляюцца яны адлюстраваннем жыцця чалавека, матэрыяльнага і духоўнага. Згодна з перакананнем людзей, памірае толькі цела, душа з'яўляецца несмяротнай. У далейшым яе жыццё — гэта разлік з зямнога быту памершага. Тэму гэтую ўзнімае большасць хаўтурных, пахавальнага характару песень і ва ўсіх іх жыццё паказана як бяссэнсавая пагоня за зямнымі каштоўнасцямі, якая засланяе і адсоўвае на далейшы план думку аб будучых разліках душы. А пасля смерці цэлая маёмасць чалавека, так як гаворыцца ў песні, гэта „Сажэнь зэмлі, штыры доскі...“ і чаканне „...спасенія з нэба...“.

Задума над сэнсам жыцця выступае не толькі ў песнях, але і ў размове, якую вядуць над пакойнікамі, і ў нараканнях над труной, і ва ўспамінах. Узніманне другіх тэм у хаце, у якой ляжыць памершы, было б нетактоўнасцю з боку наведвальнікаў, што прыйшлі назаўсёды з ім развітацца. У сям'і жалоба. Не стала блізкага для іх чалавека. Ідзе падрыхтоўка да пахавання, у часе якой успамінаюць здарэнні з жыцця памершага, у сумнай сітуацыі раскрываюць прыгажэйшыя моманты з жыцця адышоўшага. Ніколі не кранаюць спраў цёмных, дрэнных учынкаў. Старанна скрываюць яго адмоўныя ўчынкі і хібы. На спробу рэплікі з боку чужых часта адказваюць са стаічным спакоем: „Не мы суддзёю, Бог яго судзіць будзе“.

Назіраецца рэзкая розніца ў хаўтурнай абраднасці ў залежнасці ад узросту пакойніка і ад кроўнасці. Прыкладна, калі памрэ дзіця або бацька ці маці асіроцяць малых дзяцей, над труной разлягаюцца галашэнні блізкіх. Асабліва паэтычна складанымі і вельмі сумнымі з'яўляюцца нараканні над дзіцём. Сумяшчаюць яны ў сабе пастаянныя, выпрацаваныя часам і сітуацыяй, у якой апынуліся бацькі, звароты. Тэксты, якія чуваць над труной дзіцяці, гэта ўспамінанне яго анельскай дабраты, нявіннасці, розуму, прыгажосці. Гаворыцца аб тым, чаго дзіця не дачакала ў сваім жыцці, аб нязбыўшыхся надзеях бацькоў. Тэксты галашэнняў выконваліся плачлівым голасам і перарываліся цяжкім жаласным плачам, якi быў відам своеасаблівага прыпеву, часам задумы над падборкай новых метафар, новых слоў.

Розніца ў хаўтурнай абраднасці абумоўлена таксама і полам пакойніка. Інакш усё адбывалася, калі памёр мужчына, а інакш, калі жанчына, інакш апраналі незамужнюю, інакш замужнюю.

Істотным момантам, можна сказаць адкрываючым, у хаўтурнай абраднасці была сама смерць чалавека, апошнія хвіліны яго быту. Выступае тут шмат цікавых элементаў, выплываючых з народнага вераперакананя. Прыкладна, спосабы аблягчэння адыходу з гэтага свету, апошняе ачышчэнне душы, падаванне свечкі, апошняе развітанне з блізкімі, жаданні паміраючага. Зразумела, сёння ўсё гэта выглядае крыху інакш таму, што рэдка чалавек памірае дома. У большасці выпадкаў адбываецца гэта ў бальніцы. Сям'я да апошняй хвіліны стараецца ратаваць свайго блізкага.

Хаўтурная абраднасць з'яўляецца самым цікавым і багатым элементам народнага веравання, але адначасова і найбольш сумным. Назіраюцца тут і пласты з часоў язычаства, і абрады, унесеныя хрысціянскай рэлігіяй. Выступае таксама сувязь з іншымі відамі народнай абраднасці і веравання, прыкладна: з лячэннем хвароб, з магічнай дзейнасцю, з прадказваннем чалавечага лёсу, з варожбамі. Надта ж цікавай з'яўляецца таксама спроба наладжвання сувязі з памершым і адкрыцця адвечнай тайны замагільнага жыцця.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXIV**

Прырода ў „Казках жыцця“ па сутнасці бліжэйшая духу сентыменталізму, чым рамантызму. Пейзаж найчасцей мае характар спакойны і таму як бы запярэчвае пейзажу рамантычнаму, які характарызуецца дынамікай, драматызмам. Нягледзячы на гэта, прырода ў „Казках жыцця“ многімі іншымі ўласцівасцямі падкрэслівае сваю сувязь з рамантызмам. Да ўласцівасцей гэтых належаць антрапамарфізм і анімізацыя прыроды.

Прафесар Скварчынская аб літаратурнай анімізацыі гаворыць наступнае: „Ten ludowy sposób widzenia świata, któremu służy animizacja, został przekreślony przez realizm XVI i XVII w. Odżył w twórczości romantyków, uwarunkowany ideologicznie rewolucyjnym zwrotem do ludowości, patronując literackiej balladzie, literackiej baśni...“

Антрапамарфізм і анімізацыя — гэта прынцыпы, якімі Колас карыстаецца вельмі часта. Анімізацыі падлягаюць і мёртвая прырода, і расліны, і дрэвы, і птушкі.

З мёртвай прыроды ў „Казках жыцця“ выступаюць такія аб'екты і з'явы, як Гара, Струмень, Камень, Прамень, Хмара, Возера, Вецер, Агонь, Вадапад. Расліны і дрэвы прадстаўляюць у „Казках жыцця“ Кветкі, Колас, Сасна, Дуб, Лес. З насякомых і птушак выступаюць: Шэршань, Аса, Светляк, Крук, Бусел, Арол, Гуска.

Некаторыя з названых вышэй „герояў“ выступаюць па некалькі разоў у розных апавяданнях і характарызуюць іх адны і тыя ж самыя рысы, прывычкі, уласцівасці, ідэі. Для прыкладу, Гара і Дуб заўсёды сімвалізуюць пастаяннасць і саліднасць поглядаў, прынцыпаў і ідэй, у супрацьпастаўленні да іх Хмара і Струмень характарызуюцца непастаяннасцю і зменлівасцю. Вецер амаль заўсёды абазначае ашуканства і манлівасць; Агонь — ілюзорнасць; Крук — даўгавечнасць і розум.

Іншыя „героі“ выступаюць у розных ролях і выконваюць розныя функцыі.

**Грамадскія, нацыянальныя і маральныя праблемы.** Апрача фармальных прынцыпаў, якім мы прысвяцілі пэўную ўвагу, у „Казках жыцця“ выступаюць істотныя грамадскія, нацыянальныя і этычныя праблемы, якія праяўляюцца ў сімвалах, падтэкстах і канклюзіях.

Да галоўных этычных, грамадскіх праблем „Казак жыцця“ трэба аднесці: адзіноцтва чалавека, схільнасці да вагантызму, патрыятызм і рэнегацтва, праблемы рэвалюцыі. Праблема адзіноцтва выступае ў многіх тэкстах алегарычных апавяданняў. Аднак у розных тэкстах праблема адзіноцтва атрымоўвае розную афарбоўку. У адных апавяданнях Колас астаецца ў поўнай згодзе з рамантызмам, падкрэсліваючы, што адзіноцтва чалавека спрыяе яго ўнутранаму маральнаму і ідэйнаму развіццю, у другіх хваліць формы калектыўнага дзеяння.

Пахвала чалавечай самотнасці знайшла выраз у навеле „Адзінокае Дрэва“.

„Спярша нават здавалася, што гэта закінутае адзінокае Дрэва стаяла з боку ад жыцця: больш гібела чым жыло. Напраўду ж выходзіла, што яно жыло шмат паўней і нават глыбей адчувала жыццё за тыя дрэвы, што раслі ў лесе. Такі ўжо характар адзіноты: гэта яе ўрода, яе істота. І хто хоча жыць паўнейшым жыццём і гастрэй пранікаць у яго тайны-глыбіні, той павінен быць адзінокім і незалежным“.

Гэты апошні сказ вельмі вымоўны. З'яўляецца ён як бы рамантычным культам адзіноцтва чалавека.

## Наша галерэя



*Алена Кіш са Случчыны. 30-я гады 19 ст. Дыван „Катанне на лодках“.*
*Фота М. Раманюка.*

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# ТОЛЬКІ ЎВЕРХ!

Стаяў я разам з маёй кабылкай на сваім панадворку і конскім згрэблам часаў яе бокі. Любіць мая кабылка гэтую работу. Ад задавальнення аж храпе і хвастом круціць. Зрэшты, гэта ж такое самае стварэнне, як і чалавек, а які чалавек адмовіцца ад гэтай раскошнай прыемнасці, каб яму спагадлівая рука другога чалавека далікатна, з пачуццём хрыбет прачасала?

Праўда, я не дзеля прыемнасці маёй кабылцы ўзяўся за гэтую працу, я задумаў заўтра паехаць на кірмаш, каб карову на скупачны пункт даставіць. Тры разы інсемінатар запускаў ёй шкляную трубку, а яна — нічога, так і засталася яловай. Дык хай ідзе людзям на катлеты! Яе таксама трэба будзе аскрэбсці і памыць, каб класіфікатар не перапалохаўся, што я прывёў яму нейкае гімалайскае еці, бо гэтыя азіяцкія горы ў нас цяпер сталі вельмі моднымі. Пра іх газеты пішуць, іх у тэлевізійных перадачах паказваюць. Гэта таму, што двое смелых людзей, грамадзян нашай краіны, падняліся на пік найвышэйшай гары свету.

У гэты момант мая кабылка застрыгла вушамі і раптоўна падняла свой кудлаты лоб.

Яна здалёк распазнала аўтамабіль нашага сакратара гміннага. Вылез ён са свайго „малюха“, працягнуў руку на прывітанне.

— Значыць, каня чысціце? — адазваўся сакратар.

— Як бачыце, чышчу, бо падсцілу не хапае, — адказаў я, а ў думках так і прыкідваю: чаго ён хоча, да чаго заходзіць акружной дарогай?

— А я да вас, так сказаць, па справе, — заявіў сакратар.

— Ну, калі па справе, дык пайшлі ў хату! Я толькі кабылку зачыню ў хляве.

Палашка хуценька адагрэла завэкаваныя каўбаскі, а я дастаў з крэдэнсу кілішкі і ўсё іншае.

— Не! Што да гэтага, — запратэставаў сакратар, — дык я не, я ж за рулём...

— А хто там будзе правяраць такога важнага чалавека ў гміне як вы, таварыш сакратар! А калі і праверыць, дык тут жа свае людзі...

— Права для ўсіх аднолькавае! — ра-

(Працяг на стар. 4)

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# Калі заблудзіў, вярніся

Зіма. Лёдам скавала рэчкі лянівыя. Снегам поле роўненька замяло. Белая плёнка аддзяліла зямлю ад неба, аж вецер любуецца. Цяпер ніхто перад ім нідзе не дзенецца і бяда таму, у каго тонкая шкура. Людзі нейк разгублена таўкуцца па вуліцы і часам кажуць:

— Гляньце, снег сыпнуў, дык парадак зрабіўся, як у казармах перад інспекцыяй генерала.

— Як перад святам якім у двары каралеўскім.

— А ці вы не падумалі, людцы добрыя, што гэта яго вялікасць Мароз рашыў праверыць на белым экране, у каго душа чорная? — пытаўся нейкі жартаўнік.

Дзіўна, чаму людзі ўсялякі парадак прывыклі лічыць здарэннем выпадковым? А марозу навошта ведаць, чаму ў каго душа чорная? Гэтым, бадай, самі людзі павінны цікавіцца. Толькі каму гэта ў галаве? А можа, каб заахвоціць іншых, мы зробім пачатак? Зазірнем у адну душу або ў другую, паглядзім, ці ўсе мы бязгрэшны. Ад каго ж тады пачынаць будзем? Можа ад дзяцей? Яны сёння ў цэнтры ўвагі. Дзеля іх нават міжнародны год дзіцяці прыдумалі. Ім у будучым ажыццяўляць тое, чаго мы не паспеем або не здолеем здзейсніць сёння.

Вось зімовая марозная раніца. Сябры Коля і Пеця бягуць у школу. Дзеці любяць зіму. Калі пачне ісці снег, многія ў думках усміхаюцца да вялізных гурбаў, да непраходных дарог (асабліва тых, якія вядуць у школу). Усе чакаюць большых прыгод і незвычайных здарэнняў. Коля і Пеця таксама, відаць, любіцелі вясёлых здарэнняў. Ледзь выйшлі з дому і ўжо бачаць магчымасць павесяліцца. На снезе стаіць варона. Ад холаду аж прысела, апусціўшы крылы. Нерухома глядзіць некуды ў далеч, бадай, думае, дзе знайсці што-небудзь з'есці.

— Патрымай ранец, — ціха кажа Пеця, — калі зловім, паляціць у неба з грузам.

— А што прычэпіш? — пытаецца Коля.

— Што-небудзь. Тваю вушатую шапку, — адказвае Пеця і ціхенька набліжаецца ззаду да вароны.

— Табе толькі варон і лавіць, — з'едліва смяецца Коля.

— Разумны. Трэба было дапамагчы, тады і было б з чаго пасмяяцца. Помніш, як Вінцукоў сабака з паленам па вуліцы пёрся? Чуць хваста сабе не адарваў.

— Помню. Нават і тое, як ты тады дамоў спяшыў, каб Вінцуку ў рукі не папасці.

— Вось дык памяць! А не забыўся, як сам да дырэктара з бацькам хадзіў за коціка, якім у „мяч“ з Воўкам ігралі?

— Я затое кажухоў з школьнай разбіральні нікому не рэзаў. А ты...

Багатыя біяграфіі! Адкуль яны такія бяруцца?

— Мой брат — сапраўдны герой, — хваліцца Пеця. — Ведаеш, аб чым ён з сябрам гаварыў? Раз пытаецца сябрука: „Ты як любіш забіваць?“ „Стрэлам. Больш спартыўна“, — адказвае той. „А я нажом. Люблю зблізка глядзець, як дурні паміраюць“.

Са школы вярталіся яшчэ ў лепшым настроі. Пачаліся ж святочныя канікулы. Настаўнікі адпачнуць ад дзяцей. А дзеці? Можа яны дома іншыя, больш паслухмяныя пад вокам бацькоўскім.

Надвячоркам Пеця з бацькам па ёлку на машыне за горад выбраліся. На нейкай вуліцы, адкуль ні вазьміся, чорны кот хацеў дарогу перабегчы. Бацька брыдка вылаяўся, даў газу, машына ірванула ўперад. Але кот прамецца матануў у нейкі пад'езд. Бацька і сын весела зарагаталі.

— Ну, свалата, другі раз не ўцячэш. Дам я табе дарогу замінаць, — мармытаў узбуджана бацька.

Калі былі на месцы і падбіралі адпаведнае дрэўца, Пеця пацікавіўся:

— Тата, гэта ўжо лес, ці гарадскі парк яшчэ?

— Ды цішэй ты, ёлупень! Табе якая розніца, дзе якое ламачча расце? А мне бензін дарма даюць?

Калі дома потым расказалі пра ката на дарозе, Пеціна сястра пажартавала:

— Вы глядзіце, у Куццю ўсе звяры чалавечым голасам гавораць. Кот даняе ў міліцыю пра вашы ўчынкі, тады смешна не будзе.

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)

# Калі заблудзіў, вярніся

— Вось разумніца якая! Гэта на тое я табе вышэйшую адукацыю даваў, каб ты тут пра забабоны лекцыю мне можа чытала?

— Пакінь ты, бацька, гэтага выродка, — адазвалася маці з кухні. — Ты ведаеш, што яна, праўдалюбная, сёння зрабіла? Суседу сказала, што гэта дырэктараў малец на ягонай машыне цаглінай непрыстойныя словы пісаў. Вы гэта чулі? Такое казаць супраць свайго дырэктара!

Ну, хопіць чужымі сямейнымі справамі займацца. І так вядома, што калі сцямнее, Пеця будзе яшчэ бацьку дапамагаць з суседавай машыны бензін „падбіраць". А за святочным сталом за здароўе таты і мамы чарку або і другую вып'е. Калі спаць ляжа, будзе яму сніцца, што і ён герой, якому ўсё лёгка ўдаецца, а галоўнае, што ўсе яго баяцца.

(Усё, што тут напісана — праўдзівае. Прыдуманы толькі імёны).

Якія мы людзі? Дрэнныя, дурныя? Што ж, розныя бываюць. Толькі ў большасці яны дрэнна выхаваныя і дужа выгодныя. А на пытанне гэта адказваюць напісаныя кнігі. Пра гэта гаворыцца ў песнях, у казках, у радыё і кіно. І хто спрабаваў сярод герояў нязлічаных мастацкіх твораў знайсці сябе? Пашукаць у іх свае заганы. На жаль, мы ўмеем бачыць заганы толькі ў нашых суседзяў. Якія мы тады быць павінны? Адкажам: добрыя, разумныя. Ці быць добрымі і разумнымі вельмі цяжка? Відаць, цяжка, калі чалавечая грамадскасць цэлыя тысячагоддзі без большага поспеху шукае спосабу, як вызваліць чалавека ад усялякага няшчасця, прычынай якога бывае сам чалавек. А можа перш трэба адказаць на іншае пытанне: чаму мы такія малачалавечныя? На гэтае пытанне нават вучоныя не заўсёды адказ знаходзяць. А гэта пытанне дужа важнае. Калі мы не зможам адказаць, чаму ў нас душы „чорныя", мы не будзем ведаць, што рабіць, каб яны змяніліся. Тут ніякая вера, ніякая ідэалогія нічога не дапаможа, таму хаця В. Петручук і прапануе, каб праблему разглядаць без „філасофіі", я лічу, што павінны ўключыцца ў гэту дыскусію ўсе: людзі простыя і вучоныя, а галоўнае тыя, якія добра ведаюць душу чалавечую і матывы людскіх паводзін. Хай яны скажуць, як выкараніць з чалавека зайздрасць, фальш, нянавісць, хціўасць, нецярпімасць і іншыя прыкметы, якія ў нашым цывілізаваным грамадстве не павінны мець месца. Пра гэта многа могуць сказаць педагогі і псіхолагі. Хіба напішуць?

Па-мойму, дыскусію „Якія мы людзі" варта пашырыць. Нядаўна кончыўся „Міжнародны год дзіцяці". Варта, каб усе даведаліся не толькі пра тое, колькі дзяржава затраціла на гэта грошай, але якую карысць гэтыя грошы далі кожнаму дзіцяці ў нашай краіне і за межамі. Чакае рэалізацыі праблема „выхавання грамадстваў для міру". Хіба мала сказаць „будзем выхоўваць". Трэба падумаць, як гэта здзейсніць. Ці можна, напрыклад, навучыць любіць мір цэлае грамадства, не злічаючы таго, што людзі, якія састаўляюць гэта грамадства, патрабуюць кожны іншага падыходу да іх? Многія людзі не любяць нікога, а ў адносінах між сабою не карыстаюцца ніякімі правіламі выхавання, толькі жаданнем асабістай карысці. Па-мойму, выхаванне павінна пачынацца ад прывівання кожнаму паасобнаму чалавеку ад калыскі любві да ўсяго акружаючага. Да прыроды, да людзей, да справядлівасці. Вядома, выхаванне — работа цяжкая, адказная і складаная. Як, напрыклад, пераканаць чалавека, каб ён быў добры, калі навокал ашукваюць?! Крадуць і прыдумваюць сабе розныя прывілеі? Як навучыць дзіця не гаварыць брыдкія словы, калі яно чуе гэтыя словы і на вуліцы, і дома, і нават у школе?! А слова ў адносінах між людзьмі гэта таксама важная справа. На жаль, мала яму ўдзяляецца ўвагі. Што ж, трэба было б пачаць цэлае наша выхаванне амаль ад пачатку. А ці не варта? Часам карысней, калі блудзіш, вярнуцца да пачатку дарогі, чым наўздагад круціцца па бездарожжы?

**Анатоль Маўчун**

**Увага.** У папярэднім нумары пад гэтай рубрыкай быў фельетон „Дабраныя". Паведамляем зацікаўленым, што не датычыць ён вёскі Стары Корнін.

# ЯК БЫЛО і ЯК БУДЗЕ?

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 213 клубаў прэсы і кніжкі, з гэтага ліку 30 клубаў у мясцовасцях, якія з'яўляюцца сядзібамі гмінных партыйных і адміністрацыйных улад (усіх гмінаў 49). У сямі клубах „Рух" існуюць навукова-метадычныя кабінеты гмінных асяродкаў ідэйна-выхаваўчай работы (ГОПІВ). У клубах РСВ дзейнічае 117 аматарскіх мастацкіх калектываў, у тым ліку значная колькасць рэгіянальных і фальклорных, а таксама 190 гурткоў зацікаўленняў. Пры клубах вядуць сваю дзейнасць 123 спартыўныя каманды. Зараз усе клубы „Рух" маюць тэлевізары, 103 з іх магнітафоны, 2 — абсталяванне для дыскатэкі (у Саколлі і Райску). У 101 клуб „Рух" пераведзены бібліятэчныя пункты (у 1978 годзе ў клубах дзейнічала 95 бібліятэчных пунктаў). У мінулым годзе ў клубах „Рух" адбылося каля 200 сустрэч з пісьменнікамі (у тым ліку таксама „белавежцамі"), журналістамі (у тым ліку журналістамі „Нівы") і акцёрамі беластоцкага тэатра, Беластоцкая філармонія выступіла з 30 канцэртамі.

У бягучым годзе ў клубы будзе паступаць новая мэбля, якую пачала выпускаць фабрыка РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" у Новым Месце Любаўскім. Будзе яна больш функцыянальная і лепшая (такія ўжо зараз патрабаванні). У малых вёсках ліквідуюцца школы. І якраз тут клубы з'яўляюцца адзінымі асяродкамі культурнага жыцця.

У бягучым годзе клубы РСВ атрымаюць актуальныя камплекты газет і часопісаў. У іх будуць арганізаваны выстаўкі плакатаў, фотагазет, сервізаў ЦАФ і ВАФ. У вялікіх па плошчы культурных пляцоўках арганізатары будуць наладжваць тэатральныя спектаклі, музычныя канцэрты, сустрэчы з літаратарамі і журналістамі.

Кіраўніцтва Выдавецкай рабочай спулдзельні „Прэса-Кніжка-Рух" намерана арганізаваць пры клубах цэнтры ідэйна-выхаваўчай працы. Усе яны атрымаюць навейшую аўдыя-візуальную тэхніку, у тым ліку кінаапараты і магнітафоны. А з часам відэакасеты, грампласцінкі.

У праграме дзейнасці на бліжэйшыя гады прадбачваецца адкрыццё новых клубаў „Рух" перш за ўсё ў тых вёсках, у якіх актыўнае асяроддзе, дзе працуюць аматарскія харавыя або тэатральныя калектывы. Клубы ў такіх асяроддзях будуць базай для гэтага роду дзейнасці. Для іх будуць адведзены прасторныя памяшканні. Атрымаюць яны новыя камплекты мэблі (у тым ліку нават мяккія крэслы, рэгалы), усялякія настольныя ігры, больш чымсьці дагэтуль кніжак і газет ды рознае іншае светліцовае аснашчэнне. Больш клубаў атрымае каляровыя тэлевізары, касетныя магнітафоны, стэрэафанічныя радыёпрыёмнікі і навейшыя экземпляры праігрывацеляў. Будуць створаны добрыя ўмовы працы для фотааматараў. Яны змогуць карыстацца клубнымі фотаапаратамі і іншымі прыладамі для фатаграфавання і праяўлення плёнкі.

**Я. Целушэцкі**




# СПЫНІЦЕСЯ, ХЛОПЦЫ!

Разгарэлася спрэчка паміж яшабуршцамі і дзядзькаквасаўцамі. Хто з іх мае рацыю? Адны і другія. Бо праўда, як заўсёды, ляжыць дзесьці пасярэдзіне.

Найбольшым закідам яшабуршцам з'яўляецца тое, што яны адарваліся ад свайго. Іх паэзія зусім незразумелая народу. А калі так, то начарта яе пісаць, друкаваць і мазоліць нам вочы?!. Ну што ж, аргументы моцныя — вельмі не добра, калі мы становімся незразумелымі свайму народу. Але, з другога боку, калі будзем трымацца толькі старых форм, хаця і класічных, то ніколі не пазнаем новых. А знаць іх трэба, бо само жыццё змяняецца, прымае штораз новыя формы. Дапусцім, традыцыйныя формы ў паэзіі пакуль што яшчэ найлепшыя, але могуць з часам і яны ўстарэць — гэта па-першае. Па-другое, можна ж сучасную паэзію назваць творчым эксперыментам, а, як вядома, эксперымент заўсёды патрэбны, бо без эксперыменту не можа быць прагрэсу. Толькі той знаходзіць, хто шукае. І, па-трэцяе, чаму менавіта мы, беларусы, заўсёды мусім быць апошнімі?! Ва ўсіх сучасных літаратурах ёсць такая паэзія і ніхто з гэтага поваду не крычыць „гвалт!", а мы раскрычаліся. Няхай, напрыклад, Віктар Швед і яму падобныя страчаць свае вершы традыцыйным спосабам, а іншыя „белавежцы" няхай сабе паяшабурствуюць. Мы на гэтым толькі выйграем. А калі ў каго ўжо вельмі язык чэшацца да крытыкі, то няхай скрытыкуе іх, але рабіце гэта інтэлігентней. Бо такое, напрыклад, сцвярджэнне, што трэба нам пісаць, як Колас і Пушкін пісалі, гэта не аргумент у крытыцы. Вельмі нядобра, калі ў літаратуры хто сам паўтараецца ці каго паўтарае. Адным з важнейшых кампанентаў добрай паэзіі і прозы і ёсць яе арыгінальнасць. Зрэшты, Колас таксама не адразу стаў Коласам, Пушкін Пушкіным, а класікі класікамі. Каб стацца імі, яны вымушаны былі прайсці не малую і нялёгкую дарогу. Іх таксама ў свой час многія не разумелі, а іх геніяльную творчасць бралі ў штыкі.

Паэзію Я. Коласа востра крытыкавалі не толькі якіясьці другарадныя, дзяр-

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 3)

# ТОЛЬКІ ЎВЕРХ!

шуча заявіў сакратар. — І я на вас гневаюся, падвялі вы мяне.

Я насцярожана наставіў вушы.

— Вы ж у нас радным у гміне.

— Ну, але ў апошні час шмат хварэў, дыск саскочыў, варухнуцца не мог, — гавару я сакратару.

— Хвароба хваробай, а грамадская праца зусім што іншае, — кажа сакратар. — Абяцалі вы мне, што сялянскую суполку абсталюеце, абору сучасную будаваць будзеце...

— Я ўжо стары... — паспрабаваў я апраўдвацца.

— А цяпер выбары...

— Лепш каго маладшага, — паспяшала мне на дапамогу мая Палашка.

— Менавіта, што вы сказалі б пра гэтага вашага актывіста з гуртка Саюза сацыялістычнай польскай моладзі?

— Ага, пра Толіка Парасчынага? Талковы хлопец. Авечкамі заняўся. Ужо сто штук адных толькі матак мае. Смела пнецца ўверх, як тыя, што ў Гімалаях. Ну, за яго здароўе!

**Максім Нурэцкі**

## ЛІТАРАТУРНАЯ СУСТРЭЧА З ЯНАМ ЧЫКВІНЫМ У БЕЛЬСКУ

І зноў бяльчане мелі магчымасць сустрэцца з вядомым паэтам. 12 лютага 1980 года ў Бельскі дом культуры прыехаў Ян Чыквін. Пачалося ад цікавага выступлення аўтара. Што значыць літаратура, праблемы сучаснай паэзіі, яе формы — вось некаторыя пытанні, якія паставіў паэт. Гэта быў займальны ўрок для любіцеляў літаратуры. Выйшла тут на яву вялікая эрудыцыя паэта, яго вопыт у галіне літаратуры і мастацтва.

Пасля прэзентацыі трох паэтычных зборнікаў Я. Чыквіна — „Іду", „Святая студня", „Неспакой", а таксама некаторых вершаў у перакладзе на польскую мову, разгарнулася шырокая дыскусія паміж аўтарам і слухачамі, якіх прыйшло шмат на гэтую сустрэчу. Выступіла тут кантраверсійнасць у поглядах прысутных, яна асабліва датычыла форм маладой паэзіі.

Цяжка было б у кароткім аглядзе прывесці ўсе цікавыя і вартасныя пункты гэтых амаль трохгадзінных спрэчак.

Несумненна, добра, што прыехаў да нас, у Бельск, таленавіты паэт, якім з'яўляецца Ян Чыквін.

**Надзея Артымовіч**




...у Міхалоўскай гміне ў 1978 годзе фінансавую дапамогу для найбольш патрабуючых атрымала 214 асоб на суму 860 тысяч злотых і ў 1979 годзе — 276 асоб.

...у Сакольскай гміне ў апошнія два гады заснаваліся 73 спецыялістычныя гаспадаркі і 3 сялянскія вытворчыя калектывы. Цяпер ёсць 117 спецыялістычных гаспадарак і 51 землеробчы вытворчы калектыў.




Некалі было тут шумна. Настане пара абедаць — і наўкола стала збіраецца ўся васьміасабовая сям'я. Мільгаюць лыжкі. Хаця і не багата, хаця і з супольнай міскі і кожны стараецца ўхапіць лепшы кусочак, дык было прыемна і радасна. Хату запаўняў вясёлы гоман дзетвары, ля печы ўвіхалася жонка. Пахла свежым хлебам. Усе былі дома. Дзе яны? Дзе тыя шчаслівыя хвіліны? Часамі загледзіцца ў кут, і, здаецца, бачыць, бачыць усё тое, што аднеслі ў даль хвалі жыцця. І прыліў успамінаў шчаслівым казытаннем запаўняе бацькоўскае сэрца. Але замычыць карова, забурчыць на вуліцы машына — і адноўку вяртаецца бязлітасная рэчаіснасць, зноў адзін у сценах пустой хаты. Чаканне... Калі ўсе з'едуцца, калі сядуць, як некалі, вакол стала? Ці ўсе? Няма ўжо жонкі, загінуў старэйшы сын Іван. Прагаліны... Шчэрбіны ад жыцця.

Іванюку Дзянісу пайшоў ужо восьмы дзесятак. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Піліпках, што ў Бельскай гміне. У бацькоў было іх шасцёра — дзве дачкі і чатыры сыны. Гаспадарылі на шасці гектарах. У 1913 годзе памёр бацька. Вёска была ўжо часткова знішчана. У 1912 годзе быў тут вялікі пажар. Не давялося надобра адбудаваць, бо пачалі памалу пагаворваць аб вайне. Рыхтаваліся ў бежанства. У Піліпках не засталося нікога, хто выехаў, іншыя пасяліліся ў навакольных вёсках. Вёска ў першую вайну была поўнасцю спалена. Іванюкі выехалі ў 1914 годзе. Ехалі коньмі — Ялоўка, Ваўкавыск, Слонім, Мінск і спыніліся ў Новачаркаскім раёне. Вярнуліся назад у лістападзе 1919 года. Не вярнуўся толькі брат, які служыў мараком і загінуў. З вёскі не засталося нічога. Кругом толькі трава, кустарнікі ды бярэзіна. Трэба было карчаваць. Не было дзе жыць. Пераехалі ў Чыжы да сястры, якая выйшла туды замуж.






Дарагое Сэрцайка, я хаджу не з кавалерам, а з разведзеным і ў гэтым цэлая бяда. Яму 29 гадоў, а мне 24. Ходзім мы ўжо амаль год. Быў у мяне дома, бацькам падабаецца. Яны заўсёды ветліва яго прымалі. Але я затаіла перад імі тое, што ён разведзены. Баялася прызнацца. Але Сярожа хоча ўжо са мной жаніцца. І я вымушана была сказаць праўду. Нават тое, што ў яго ёсць з першай жонкай дзіця. Яно пры маці. Мама, пачуўшы гэтае, страшна знервавалася і не хоча нават слухаць аб нашым шлюбе. Бацька пахадзіў некалькі дзён нахмураны і яму прайшло. Ён вельмі Сярожу любіць. А да маці і доступу няма. Кажа: кінь яго, яшчэ знойдзеш не аднаго кавалера. А я ніякага не хачу, я Сярожу кахаю і хачу за яго выйсці замуж. Сэрцайка, ці разведзены чалавек мусіць быць ужо кепскім мужам?

Крыся з Бельшчыны

Крыся! Разведзены зусім не абазначае, што ўжо гэта чалавек дрэнны. Можа быць гэта чалавек найбольш талковы і поўнавартасны, якому проста не пашанцавала ў сямейных справах. Тое ж адносіцца і да жанчыны. І тыя людзі маюць поўнае права залажыць сям'ю другі раз. Толькі вось што. Сярожа з'яўляецца бацькам дзіцяці ад першай жонкі. І ты, выходзячы за яго, мусіш узяць гэта пад увагу. Дзіця ў нічым не вінаватае. Не адбірай яму бацьку, дазволь ім сустракацца.

✲

Міша з Бельшчыны! Ты няўважліва чытаеш „Ніву". Параду ў тваіх клопатах я давала ў „Ніве", № 6 (1250) ад 10 лютага 1980 года.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны пане Астролаг! Прыснілася мне, што ў маёй вёсцы стаіць велізарны залаты палац. Я хадзіла адна па цёмных велізарных пакоях. У адным з іх каралеўская сям'я абедала. Мяне таксама запрасілі за стол. Памятаю, што я вельмі многа ела. Пасля абеда я ўбачыла, што залаты палац зусім не з золата, а было там вельмі многа бруду і жывёльных адыходаў.

А яшчэ прыснілася мне, што ляцела, я ракетаю на Месяц. Месяц быў залацісты, я ляцела, як на дыване ў залатой смузе. За мною быў відаць блакітны зямны шар. Але на Месяцы было пуста, толькі стаялі яўрэйскія хаткі. Пасля спаткала яўрэяў, я хацела каб яны далі мне нейкую працу. Яны ж мне сказалі, што ані працы, ані кватэры не маюць. Сарамліва і неахвотна вярталася я на Зямлю.

Вельмі часта паўтараецца яшчэ мне сон, быццам я знаходжуся на вёсцы, але мушу вяртацца ў Беласток. І калі вяртаюся, вяртаюся найчасцей босая, цёмнай ноччу.

Шаноўны пане Астролаг! Гэтыя сны часта паўтараюцца і яны непрыемныя, так што я вельмі баюся, ці не прадвяшчаюць яны чаго дрэннага. Прашу вас вельмі ўсё выясніць мне, асабліва таму, што вашыя прадказванні спраўджаюцца.

Яніна з Беластока

P.S Што абазначае слова „перамогі"? Вы тлумачылі, што цяляты абазначаюць „перамогі". Якое можа быць іншае, больш зразумелае значэнне гэтага слова?

**Яніна!** І я згаджаюся з табою, што сны не зусім добрыя. Першы сон твой, той у якім ты бачыла залаты палац, які ператварыўся пасля ў брудны і засмечаны, абазначаў бы, што нейкае знаёмства са знатнай асобай прынясе табе горыч і плёткі. А можа нават нейкую хваробу. Другі сон даволі фантастычны, але думаю, што навеяны ён тваімі жыццёвымі клопатамі. Што датычыць трэцяга сну, дык павінен я цябе пацешыць. Твой зварот з вёскі ў Беласток босай можа абазначаць нейкі грашовы прыбытак. Слова „перамога" (zwycięstwo) абазначае поспех у справах.

**Астрон**

## ФАЛЬКЛОР

**ЛЮБОЎНАЯ**




*Як мы кахаліся, як малыя діты,*
*да, гей!*
*Тыпэр розышліся, як туман по світы,*
*тыпэр розышліся, як туман по світы.*
*Туман розыйдэцця — дробны дожджык пойдэ,*
*да, гей!*
*З нашого кохання нычого нэ выйдэ,*
*з нашого кохання нычого нэ выйдэ.*
*З нашого кохання і з нашоі мукі,*
*да, гей!*
*Очы нэвыспаны, сэрцові нэспокуй,*
*очы нэвыспаны, сэрцові нэспокуй.*

Ад Марыі Ахрымюк, 1931 г. нараджэння, вёска Вілінава гм. Мельнік, запісаў у лістападзе 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.



**У нашай метраполіі.** Камяніца ў стылі сецэсіі ў Беластоку на вул. Варшаўскай. Цяпер Музей рэвалюцыйнага руху.
Фота М. Гайдука.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Калі М. жаніўся, бацька зрабіў даравальны акт пляца і дома на карысць сына і нявесткі, пакідаючы сабе права пажыццёвага карыстання з часткі гэтага дома, у якой ён пражывае разам з жонкай. Нявестка не ладзіла з цёшчай і намаўляла мужа, каб ён пакінуў бацькоў і пераехаў у яе сям'ю. Муж не згадзіўся, і жонка, кінуўшы яго, перайшла да сваіх бацькоў і пагражае разводам. Ці ў выпадку разводу будзе яна мець права на дом і пляц?

АДКАЗ: Паколькі бацька дараваў пляц і дом сыну і нявестцы, з'яўляюцца яны супольнымі ўласнікамі і, калі б яны атрымалі развод, нявестка будзе мець права такое самае, як і яе муж. Аднак бацька мае магчымасць адклікаць даравальны акт з прычыны яркай няўдзячнасці нявесткі. Заява аб адкліканні даравальнага акту павінна быць у форме пісьма даручана нявестцы. Пасля гэтага пляц і дом стануць супольнай уласнасцю бацькі і сына. Зразумела, што калі б не толькі нявестка, але і сын праявіў адносна бацькі яркую няўдзячнасць, мог бы ён адклікаць даравальны акт адносна сына і нявесткі, а дом з пляцам былі б у гэтым выпадку ўласнасцю бацькі. Сам сын не мае ніякага спосабу, каб бараніцца перад патрабаваннямі яго жонкі адносна пляца і дома, бо не прыслугоўваюць яму большыя правы, чым яго жонцы.

## Куток практычных ведаў

### МОДА ДЛЯ ПРЫГОЖЫХ НОГ

Калі ўважліва прыгледзецца да сцэны моды, можна заўважыць важную дробязь: з жаночымі панчохамі ў апошні час **нешта дзеецца.** Больш таго: яны знаходзяцца, бадай, у цэнтры ўвагі жаночай вопраткі. Узнікла, такім чынам, цалкам новая мода на панчохі, поўная шыку і фантазіі, мода, якой даўно не было. Панчохі (ці райстопы) у кропкі, з кветачкамі, залатыя, сярэбраныя — меняцца ўсімі колерамі. Асабліва любяць іх маладыя жанчыны. Сённяшні наш здымак узяты з папулярнага заходненямецкага журнала моды „Бурда". Спадзяемся, што панчохі з такой чароўнай ружачкай на вечар неўзабаве апранем і мы.

**Сяброўка**



(Працяг са стар. 5)




ся вельмі многа гітлераўскіх афіцэраў...

Адзін з іх гаварыў на польскай мове і ён пачаў падрабязна распытваць селяніна.

— Пра ўсё пытаў, — кажа Панасюк. — Дзе рускія знаходзяцца, калі гэтыя бункеры ў нас будавалі, колькі іх тут, якая ў мяне сям'я, колькі дзяцей, дзе яны знаходзяцца, дзе жонка, ці я партыйны, як нам жывецца... Я адказваю, а ён пытае і адначасова перакладае на нямецкую мову. Урэшце ставіць мне вось такое пытанне:

— Дзе твае дакументы?

— Не маю, — гавару, — дома засталіся. Я толькі з хаты за каровамі выйшаў, — хуценька дабаўляю. То ж не скажу яму, — звяртаецца дзядзька Аляксандр да мяне, — што згубіў я свой пашпарт на агародзе, калі мяне першы раз перапынілі падуладныя гэтага афіцэра. Ён глядзіць на мяне неяк дапытліва і па вачах яго бачу, што ён мне не верыць.

— Дзе жывеш? — пытае гітлеравец селяніна.

І тут Аляксандр Панасюк задумаўся на малую хвіліну, што яму адказаць. Праўду? А можа лепш было б назваць нейкую іншую вёску? А калі праверыць? Гэта ж вельмі проста. Не, — рашыў Панасюк, — я ніколі ў жыцці не ілгаў.

— Я, пане, са Слохаў, — прашаптаў селянін.

На гук гэтага слова гітлераўскі афіцэр аж сарваўся з крэсла.

— Слёхі?! — закрычаў. — Але комуністэн! — раптоўна перайшоў ён на нямецкую мову. — Капут!

І на гэтым закончыліся допыты. Аляксандра Панасюка зноў пагналі над рэчку Шысю.

— А тыя двое там усё яшчэ ляжаць, — расказвае селянін. — Загадалі мне зноў класціся побач. „*О, Божа!* — падумаў я, апускаючыся на калені. — *За што яны так нада мною знуткуюцца?! Хай хутчэй бы ўжо прыкончылі!*" Стаў я на калені тварам да свежай ямы, якую лічыў ужо сваёй магілай, павёў вачыма па наваколлі, бо здалося мне, што я ўжо болей не пабачу нічога на гэтым свеце, і зноў шырока ды голасна перахрысціўся.

Немец штурхнуў яго ботам у плечы, і Панасюк носам зноў зарыўся ў траву. І зноў мазгамі затраслі трывожныя думкі, зноў вярнулася назойлівае пытанне: „*Хто яны, гэтыя суседзі па няшчасці? Ці жывыя?*

Адзін з іх, быццам бы здагадаўся, што да яго адносіцца гэтае пытанне, асцярожна паварухнуўся, і Панасюк зразумеў, што яны ўсе трое яшчэ жывыя. Ухапіўся гэтай думкі, як іскрынкі святла сярод цёмнай ночы.

У гэты момант яшчэ раз загналі яго ў штаб і зноў паўтарылася ўся камедыя з допытам, як за папярэднім разам. Гэты ж самы гітлераўскі афіцэр, які гаварыў па-польску, яшчэ раз, як бы ўпершыню пабачыў гэтага селяніна, пачаў распытваць пра ўсе падрабязнасці яго жыцця.

— Аднаго толькі я ім не сказаў, — заяўляе Аляксандр Панасюк. — Не сказаў я ім, што працаваў на гэтых точках. А так адказваў на ўсё, што ведаў. Урэшце даходзяць і да Слохаў. Ну, што ж, думаю, папярэднім разам сказаў, што я са Слохаў, дык не магу цяпер гаварыць інакш. Як толькі пачулі, што я са Слохаў, так і гутарка абарвалася. Як нажом абрэзаў. Усе разам зашваргаталі, што ў Слохах адны толькі камуністы, што ўсім ім будзе капут...

І зноў пагналі Аляксандра Панасюка над рэчку Шысю, дзе знаходзілася падрыхтаваная ўжо магіла, дзе яшчэ ляжалі гэтыя людзі. Цяпер убачыў іх твары і пазнаў. Былі гэта яўрэі з вёскі Клекатова. Не, не ўцешыўся гэтым суседствам.

„*Ага, такая справа...*" — затрасло яшчэ мацней яго сэрцам, аж да болю. Са звестак, якія часта далятаў да іх з-за Буга, ужо ведаў, як фашысты адносяцца да яўрэяў.

Хацеў ужо закрычаць, што ён не яўрэй, але пачуў удар прыкладам у плечы і зноў паваліўся ніцма на траву. „Можа паспрабаваць уцёкаў? — прыкінуў у думках? — Але як? Куды? Нада мною вартавы, ззаду гітлераўскі штаб і поўна немцаў, а спераду — рэчка. Рэчку можна пераскочыць, яна не такая ўжо і глыбокая. Далей корчыкі... Толькі ці паспею? Ці раней мяне з аўтамата... Можа дамовіцца з гэтымі яўрэямі, каб у розныя бакі... Тады хаця аднаму з нас удасца..."

Паспрабаваў асцярожна, непрыкметна, падсунуцца да свайго суседа, каб з ім перагаварыцца. Толькі аднак падцягнуў пад сябе рукі, каб абаперціся на іх, як тут жа над галавой пачуў гаркавае „*руэ!*", і цяжкая нага з падкованай падошвай бота балюча прыціснула яго да зямлі.

...І чакаў Аляксандр Панасюк над падрыхтаванай яму магілай. А чаго дачакаўся, раскажу праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

